ПРАЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР.

№ 71 (1605) | Пятніца, 8 верасня 1961 года | Цана 4 кап.

# ВЯЛІКАЯ МЭТА АБАВЯЗВАЕ

Пятро ВАСІЛЕЎСКІ

У гэтыя велічныя перадз'ездаўскія дні мы, работнікі мастацтва і літаратуры, абавязаны праверыць свой творчы багаж, сваю баявую зброю. Мы — удзельнікі бяспрыкладнага змагання за лепшы свет, за лепшага чалавека, і гэта накладае на нас вялікую адказнасць.

У праекце Праграмы нашай партыі пытанні мастацтва і літаратуры занялі дастойнае месца. І гэта зразумела. Партыя падкрэслівае, што савецкая літаратура і мастацтва «заклiканы служыць крыніцай радасці і натхнення для мільёнаў людзей, выражаць іх волю, пачуцці і думкі, служыць сродкам іх ідэйнага ўзбагачэння і маральнага выхавання».

Мы глядзім на літаратуру і мастацтва як на магутны сродак у справе выхавання чалавека новага грамадства. «Нам патрэбны такія кнігі, кінафільмы, спектаклі, творы музыкі, жывапісу і скульптуры, якія выхоўвалі б людзей у духу камуністычных ідэалаў, абуджалі б у іх пачуццё захаплення ўсім цудоўным і прыгожым у нашай сацыялістычнай рэчаіснасці, нараджалі б у людзях гатоўнасць аддаць свае сілы, веды і здольнасці беззапаветнаму служэнню свайму народу, жаданне браць прыклад са станоўчых герояў твораў і выклікалі непрымірымасць да ўсяго антыграмадскага, адмоўнага ў жыцці». Гэтыя словы Мікіты Сяргеевіча Хрушчова вельмі дакладна вызначаюць задачы нашай літаратуры і мастацтва.

Твор мастацтва, калі ён вызначаецца праўдзівасцю, праніклёнасцю ў глыбіні жыцця, дзейнічае на чалавека з вялікай сілай.

Мне неяк давялося прысутнічаць на спектаклі Народнага тэатра, які ставіў п'есу А. Макаёнка «Лявоніха на арбіце». І хоць спектакль не вызначаўся «акцёрскімі ўдачамі», быў сціпла афармлены, і выканаўцы ад хвалявання забывалі словы, але ў невялікай зале калгаснага клуба панавала атмасфера гарачага публічнага дыспуту на хвалюючую тэму: «Прыватная ўласнасць і камунізм». Спрэчка была смелая і адкрытая. Па ходу дзеяння, калі герой п'есы Лявон заўзята адстойвае сваю карову, з залы пачуўся вокліч:

— Не аддавай кароўку, Лявон!

Гэта быў мужчынскі голас. І ў адказ яму пачуўся заўзяты жаночы:

— А ты хоць раз даіў яе? Паспрабуй, будзеш ведаць, як гэта лёгка.

Зала рагатала.

Раніцаю я хадзіў па калгасе. Арцельная гаспадарка вялікая, шматгалінная. Зайшоў і на ферму. Якраз даілі кароў.

Каровы паслухмяна заходзілі ў спецыяльную загародку, даяркі спрытна завіхаліся з дальнымі апаратамі, а малако бегла ў бітоны. Я любаваўся працай даярак, спрабуючы вызначыць, якая з іх учора на спектаклі абурылася прыватнаўласніцкімі імкненнямі свайго аднавяскоўца.

Так мастацкі твор становіцца саюзнікам у барацьбе за новы светапогляд.

Цяжка пераацаніць ролю літаратуры ў наш час. І таму нас, работнікаў літаратурнага фронту, не могуць не хваляваць некаторыя нездаровыя з'явы, якія назіраюцца ў асяроддзі чытачоў. Асабліва трэба звярнуць увагу на нашага маладога чытача.

Што ён чытае? Якія кнігі зачытаны ім, як кажуць, да дзірак?

На вялікі жаль, гэтыя кнігі часта далёкія ад дасканаласці і не заўсёды адпавядаюць свайму прызначэнню — служыць сродкам ідэйнага ўзбагачэння і маральнага выхавання. І здаецца мне, што дрэнную паслугу нашаму маладому чытачу робяць кніжкі ў шэрых вокладках, якія косназычна і неразумна расказваюць аб прыгодах шпіёнаў. Некаторыя вынаходлівыя аўтары паспелі ўжо насяліць шпіёнамі і сусвет, падмяніўшы хвалюючую і ўражлівую карціну пакарэння космасу савецкім чалавекам нікчэмнымі, перакладнымі карцінкамі з надуманых прыгодаў «касмічных» шпіёнаў.

І наша выдавецтва ў пагоні за выкананнем плана па славутаму «валу» патурае часам нездаровым густам, выпускаючы недасканалыя прыгодніцкія кнігі вялікімі тыражамі. Слабы раман Міколы Гамолкі на «касмічную» тэму выпушчаны тыражамі, якія пакідаюць далёка ззаду тыражы лепшых твораў беларускай літаратуры. Ні адна кніга Макара Паслядовіча, прысвечаная сур'ёзным тэмам сучаснасці, не можа зраўняцца тыражом з яго ж пасрэднай прыгодніцкай аповесцю «Па воўчых сцежках».

Яшчэ больш крыўдна, калі нашы выдавецтвы, выпускаючы адну-дзве тысячы экземпляраў новай кнігі паэта, тут жа побач «ціснуць» амаль мільённым тыражом якую-небудзь чарговую «Каралеву Марго». Бясспрэчна, Дзюма — займальны апавядальнік, але выхаваўчая сіла падобных твораў нязначная, а часта проста роўная нулю.

І ўсё ж яшчэ многа чытачоў аддаюць перавагу псеўдагістарычным паходжанням каралевы Марго над праўдзівым і павучальным прыкладам сучаснай гераіні.

Гэта павінна насцярожыць нас. Задача пісьменнікаў пашыраецца — трэба не толькі пісаць, але і прапагандаваць сваю кнігу.

Зразумела, бессюжэтная, напісаная невыразнай мовай, рыхлая кампазіцыйна кніга не знойдзе дарогу да сэрца чытача, якімі б цудоўнымі і значнымі ні былі ідэі, што напаўняюць яе старонкі.

Мы абавязаны вывучаць і выяўляць прычыны недавер'я з боку маладога чытача або гледача да твораў аб сучаснасці, якія расказваюць пра яго ж самога, пра час, у якім ён жыве, працуе, кахае.

Адной з такіх прычын з'яўляецца, на маю думку, падмена ў некаторых творах літаратуры і асабліва кіно мужнай праўды нашага жыцця салодзенькай праўдачкаю. Савецкія людзі жывуць у абставінах няспыннай вялікай барацьбы за новы, самы справядлівы свет на зямлі, за новага чалавека. Але аўтары падобных твораў старанна спрабуюць завуаляваць гэтую барацьбу, нанесці на яе непатрэбны глянец, паказваючы замест генеральнага змагання на шырокіх прасторах жыцця дробныя бойкі на яго задворках.

У такіх творах складанасць барацьбы за новага чалавека падмяняецца паказам нерэальнага дабрабыту, поўнага мяшчанскай утульнасці, што выдаецца за ўзор.

Прыгадаем хоць бы апошні беларускі фільм «Апавяданні пра юнацтва». Пакуль у гэтых апавяданнях расказваецца пра суровы час грамадзянскай вайны і першыя пяцігодкі, аўтары фільма знаходзяць праўдзівыя дэталі, сумленна і мужна раскрываюць у дзеянні канфлікты часу. Варта ім толькі перайсці да паказу нашых дзён (навела «Даль кліча»), як не толькі элементарная праўда, але і пачуццё меры пакідае экран. Усё ў гэтай навеле фальшывае, надуманае.

Чаму так здарылася? Чаму іменна кіно, якое мае такія велізарныя магчымасці для праўдзівага і паэтычнага паказу вобраза нашага сучасніка, напаўняецца малапераканальнымі, шэрымі персанажамі, даючы няправільны малюнак нашай рэчаіснасці?

Прычын многа. Адна з іх — сіла інерцыі. Не жадаючы вывучаць жыццё, мастакі пасіўна ідуць за модай і пераймаюць іншы раз нікчэмныя ўзоры. Такія фільмы беларускага кіно, як «Новы дом», «Пасеялі дзяўчаты лён» і іншыя, вядома ж, прынеслі вялікую шкоду не толькі гледачу, але і мастакам кіно. Барацьба з падобнымі з'явамі павінна быць бязлітаснай.

Асноўным недахопам нашай беларускай кінематаграфіі з'яўляецца боязь вострых канфліктаў. У сцэнарным аддзеле студыі гэтую вастрыню часцей за ўсё разумеюць спрошчана, маўляў, павінна быць «закручана».

Баючыся сапраўды жыццёвых канфліктаў, на студыі пачынаюць вынаходзіць так званыя «прыймальныя канфлікты», г. зн. пачынаюць ствараць падзеі, якіх звычайна не бывае ў нашай рэчаіснасці, выдумляць герояў, якіх няма ў жыцці.

Адсюль і вынікае дробнатэмнасць, калі ўвесь сыр-бор загараецца ад якой-небудзь дробязі: украдзенага матка нітак («Каханнем трэба даражыць»), спазнення на спатканне або згубленага адраса. Вядома, і нязначная на першы погляд з'ява можа стаць яркім, абагуленым вобразам з вялікім сацыяльным зместам. Але тут ідзе гаворка пра тыя выпадкі, калі нязначная з'ява, пакладзеная ў аснову фільма або кнігі, такой і застаецца да апошняга кадра або старонкі.

І бачачы на экране, чытаючы ў кнізе такое адлюстраванне нашай рэчаіснасці, часта пытаеш сябе: «А ці пазнаюць нас нашчадкі ў тых героях, якімі мы напаўняем наш экран і старонкі нашых кніг?»

Наўрад. Бо героі гэтыя, нават пры ўсёй праўдападобнасці і дакументальнасці, у некаторых выпадках усё ж па-мастацку не абагулены, малаінтэлектуальныя, свет іх вузкі і спрошчаны, а тыя нямногія прыкметы сучаснасці, якія ёсць у творы, балансуюць на грані шэрай, прыглушанай напалавіну праўды, напалавіну маны і звычайнага натуралізму.

Мастак, які працуе на ніве «чалавеказнаўства», павінен імкнуцца паказаць духоўную сутнасць сучасніка, раскрыць у ім тыя рысы высокага гуманізму, тую глыбіню пачуццяў і сардэчнасці, якія вызначаюць у ім рысы будаўніка камунізма. Людзей вялікай душы шмат, іх становіцца з кожным днём больш. Іх не трэба выдумляць у пракураных пакоях сцэнарных аддзелаў і пісьменніцкіх кабінетах.

Мы не павінны заплюшчваць вочы і на такі факт, што да гэтага часу нашы кінапракатчыкі бязлітасна і метадычна атручваюць густ нашага гледача нізкапробнай імпартнай кінапрадукцыяй накшталт усялякіх «Фанфар кахання».

Мы абавязаны нястомна выхоўваць густ нашага савецкага гледача і чытача. І не толькі работнікі літаратуры і мастацтва заклiканы змагацца за здаровыя густы — гэта справа ўсёй грамадскасці.



Беларускія мастакі і скульптары падрыхтавалі рад работ, якія будуць экспанавацца на Усесаюзнай мастацкай выстаўцы 1961 года ў Маскве. Сярод гэтых работ—карціна мастака Я. Зайцава «Дарагі госць», якая прысвечана наведанню Беларусі М. С. Хрушчовым. Публікуем рэпрадукцыю гэтай карціны.

## Падзеі. Факты. Навіны

□ «Маякі клічуць наперад» — так называецца выстаўка, прысвечаная XXII з'езду Камуністычнай партыі Савецкага Саюза. Яна наладжана ў памяшканні Дзяржаўнай бібліятэкі імя Ул. І. Леніна. На стэндах выстаўкі — матэрыялы XXI з'езда партыі, Пленумаў ЦК КПСС, брашуры, газетныя і часопісныя артыкулы, кнігі, напісаныя перадавікамі вытворчасці: «Мой шлях» М. Парамонавай, «На разведцы зямных нетраў» М. Балалаева, «Працуем па-камуністычнаму» Д. Пятрова і інш.

□ Маладзечанскі гарком КПБ і гарадское аддзяленне Таварыства па распаўсюджванню палітычных і навуковых ведаў правялі семінар лектараў па матэрыялах праектаў Праграмы і Статута КПСС. На прадпрыемствах горада і ў вёсках раёна пачалося чытанне лекцый, прысвечаных гэтым гістарычным дакументам.

□ «Палёт чалавека ў космас» — вечар на гэтую тэму быў наладжаны ў в. Красоўшчына Маладзечанскага раёна для рабочых саўгаса «Радашковіцкі» работнікамі Маладзечанскай гарадской бібліятэкі. Была арганізавана выстаўка літаратуры «Савецкі чалавек у космасе», прысутныя праслухалі лекцыю аб вялікай перамозе савецкай навукі і тэхнікі. Пасля адбыўся канцэрт калектываў мастацкай самадзейнасці Маладзечанскага і Радашковіцкага дамоў культуры.

□ Магілёўскі абком КП Беларусі выдаў тыражом у тры тысячы экземпляраў ілюстраваны плакат «Праграма пабудовы камунізма». Выдадзены таксама лісткі «Галоўная эканамічная задача», «Праца стане сапраўднай творчасцю», «Маральны кодэкс будаўнікоў камунізма», «Умацаваць вечны мір на зямлі». Ва ўсіх установах культуры, на заводах і фабрыках вобласці аформлены стэнды, арганізаваны выстаўкі літаратуры, прысвечаныя праектам Праграмы і Статута КПСС.

□ Рыхтуючыся да рэспубліканскага агляду агітацыйна-мастацкіх брыгад, які адбудзецца ў канцы гэтага года ў Мінску, Магілёўскі абласны Дом народнай творчасці правёў семінар кіраўнікоў агітбрыгад культасветустаноў вобласці. Удзельнікі семінара абмяняліся вопытам работы, абмеркавалі тэматычныя сцэнарыі, над якімі цяпер працуюць лепшыя агітбрыгады вобласці.

□ Драматычны гурток Хойніцкага раённага Дома культуры паказаў гледачам гарадскога пасёлка новы спектакль па п'есе А. Макаёнка «Лявоніха на арбіце». Гуртакоўцы таксама выступілі перад рабочымі саўгаса «Стралічава». Свой спектакль яны прысвяцілі XXII з'езду партыі.

## КАНФЕРЭНЦЫЯ НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ

Днямі ў гарадскім пасёлку Заслаўе Мінскага раёна адбылася канферэнцыя чытачоў газеты «Літаратура і мастацтва», арганізаваная пасялковай бібліятэкай. Сваімі думкамі аб газеце падзяліліся настаўнікі Я. І. Зязюлін і М. Р. Янкоўскі, бухгалтар Алена Агейчык. Яны, у прыватнасці, выказалі пажаданне, каб на старонках газеты вяліся цікавыя дыскусіі на літаратурныя і грамадскія тэмы, часцей публікаваліся аднаактовыя п'есы для самадзейнасці, каб газета больш і глыбей асвятляла такія пытанні, як маральнае аблічча савецкага маладога чалавека, работа літаратурных гурткоў у школе і інш.

На канферэнцыі з чытаннем сваіх твораў выступілі пісьменнікі Э. Валасевіч, А. Марціновіч, П. Прыходзька, С. Шушкевіч.

# З ВЫСОКАЙ ТРЫБУНЫ

## БЕЗ АНСАМБЛЯ НЯМА СПЕКТАКЛЯ

Ул. НЯФЁД, кандыдат мастацтвазнаўчых навук

Немагчыма ўявіць сабе сапраўдны тэатр без творчай аднадумнасці акцёраў, іх здольнасці слухаць і разумець адзін аднаго і ўзгадняць свае дзеянні, накіраваныя на максімальна глыбокае выяўленне асноўнай задумы спектакля. Інакш кажучы — без ансамблевасці няма спектакля. Але ансамбль — не самамэта. Ансамблевы спектакль найбольш правільна і глыбока можа выявіць задуму драматурга, данесці да гледача стылявое адзінства твора. Стройнасць і зладжанасць усіх кампанентаў — абавязковая ўмова яго высокай мастацкасці, праўдзівасці.

Яркім прыкладам ансамблевага тэатра можа быць МХАТ. Можна назваць нямала спектакляў Тэатра імя Янкі Купалы, якія вызначаюцца выдатным ансамблем. Прыгадаем хоць бы «Апошнія» і «Хто смяецца апошнім».

Ансамбль дасягаецца не адразу, а з гадамі, у выніку глыбокай і сур'ёзнай творчай працы пастаяннага калектыву. Калі ж у тэатры кожны год мяняецца значная частка яго складу, пра ансамбль гаварыць вельмі цяжка.

Рашаючая роля ў дасягненні ансамбля належыць рэжысёру. Але добра, калі ў тэатры рэжысёр працуе на працягу раду год і знаходзіць агульную мову з калектывам. А калі рэжысёры мяняюцца кожны год? Чаго ж можна чакаць ад тэатра ў такім выпадку? Сярэдніх, іншы раз не благіх спектакляў і не больш.

Вось такое становішча цяпер у Гомельскім і Гродзенскім тэатрах. Многія творчыя недахопы ў гэтых калектывах тлумачацца перш за ўсё тым, што ў іх вялікая цякучасць акцёрскіх кадраў, частая змена рэжысуры.

Яркая і цікавая рэжысёрская работа І. Папова над спектаклем «Тры таварышы». А вось спектакль «Без віны вінаватыя», пастаўлены ім жа, пакідае дрэннае ўражанне. Мы не будзем папракаць рэжысёра за тое, што ў гэтым спектаклі няма нічога «свайго», г. зн. няма арыгінальнага прачытання п'есы. П'еса «Без віны вінаватыя» даўно ідзе на рускай сцэне, і яе магчымасці ў вялікай ступені вычарпаны. Мы чакалі, няхай у многім традыцыйнага, але мастацкі паўнацэннага ўвасаблення п'есы, а ўбачылі надзвычай недасканалы спектакль, у якім ёсць толькі асобныя акцёрскія ўдачы. Выканаўцы ходзяць па сцэне, гавораць належны тэкст, у патрэбны час уваходзяць і выходзяць за кулісы... Але няма ў спектаклі сапраўднага жыцця, не хвалюе лёс яго герояў.

Адсутнічае ансамблевасць у спектаклі «Лявоніха на арбіце». П'еса дае ўсе падставы для стварэння спектакля народнага па сутнасці, па духу і па вонкаваму праяўленню. А іменна народнасці і не хапае спектаклю. Многае тут падменена стылізацыяй.

Выглядаюць чужароднымі ў спектаклі вобразы старшыні калгаса Буткевіча (Н. Маруфаў) і Соні (В. Зайцава). Па свайму вонкаваму і ўнутранаму абліччу гэта, як быццам, людзі «не з таго двара». У іх няма цеснага кантакту з Лявонам, Лушкаю і іншымі героямі. А калі так, дык не можа быць і гаворкі пра ансамблевасць спектакля. Ансамбль парушаецца таксама стылявым разнабоем у рэжысёрскім вырашэнні асобных карцін і асабліва карціны ў кабінеце Глуздакова, пра якую мы ўжо гаварылі вышэй.

Немалое значэнне для дасягнення ансамблевасці спектакля мае дэкарацыйнае афармленне. У спектаклі «Лявоніха на арбіце» дэкарацыі не дапамагаюць, а перашкаджаюць дасягненню мастацкага адзінства твора. Дэкарацыі ў многім створаны без уліку характару п'есы. П'еса — рэалістычны твор, які патрабуе простых і жыццёва праўдзівых сродкаў вонкавага паказу. Але мастак А. Свішчаў, відаць, няправільна зразумеў сваю задачу. Танальнасць афармлення некаторых сцэн (хата і двор Лявона з відам на сяло) больш адпавядае якому-небудзь казачнаму сюжэту. Жадаючы надаць спектаклю нацыянальны каларыт, мастак ужыў арнамент, але так перастараўся, што ўнутраны і вонкавы выгляд хаты Лявона аказаўся хутчэй падобным на ярка расфарбаваны церамок з казкі. У тым жа духу вытрыманы і від на вёску, і прысядзібны ўчастак. Карцінныя домікі, яркія, ненатуральнага колеру агародныя градкі і асабліва блакітнае неба з акуратна намаляваным воблакам, — не што іншае, як стылізацыя, лубок.

Відавочна, што дэкарацыйнае афармленне тут павінна быць больш жыццёвым, гэта садзейнічала б гарманічнай стройнасці твора. Дарэчы, у другім выпадку А. Свішчаў здолеў глыбока і правільна зразумець змест і стыль п'есы. Мы маем на ўвазе спектакль «Кветкі жывыя». Тут мастак стварыў афармленне, якое дазваляе найбольш поўна выявіць асаблівасці п'есы. Прастата, лаканічнасць, прасторная сцэнічная пляцоўка, дзе могуць свабодна дзейнічаць героі, давалі ўсе магчымасці рэжысуры для правільнага прачытання п'есы. Але, як гаварылася вышэй, п'еса раскрыта ў няправільным ключы. І тут ёсць яўная неадпаведнасць рэжысёрскага «бачання» і дэкарацыйнага афармлення спектакля, што перашкаджае дасягненню сапраўднага ансамбля.

Часта можна бачыць парушэнне ансамбля, калі хтосьці з акцёраў захапляецца камедыйнасцю вобраза і пачынае камікаваць, пераігрываць у разліку на рэакцыю гледачоў. А бывае і так. Акцёр, імкнучыся пераканальна паказаць вобраз свайго героя, празмерна стараецца падкрэсліваць тыя якасці, якія яму здаюцца найбольш важнымі. У гэтым імкненні ён таксама траціць пачуццё меры і парушае псіхалагічную праўду ўзаемаадносін дзеючых асоб.

У спектаклі «Страчаны сын» артыстка З. Свідуновіч выконвае ролю загадчыцы бібліятэкі Чаромушкінай. Чаромушкіна ў п'есе — просты, сціплы чалавек, які прысвяціў сваё жыццё служэнню такім жа простым людзям. Яна шчаслівая, таму што знайшла сваё месца ў жыцці, таму што яна патрэбна людзям. Гэты вобраз у п'есе выступае антыподам пісьменніка Антона Ахотнікава, які, трапіўшы пад уладу таннай славы, зазнаўся, перастаў разумець інтарэсы простых людзей, а ў выніку страціў напрамак у жыцці.

Артыстка З. Свідуновіч, падкрэсліўшы ў Чаромушкінай яе прастату, сціпласць, сарамлівасць, зрабіла гэтыя рысы цэнтральнымі, а другія асаблівасці характару гераіні пакінула ў цяню. Чаромушкіна выглядае ў спектаклі прыніжаным і вартым спачування чалавекам. Але ў такім выпадку як жа яна магла зрабіць уражанне на Антона і дапамагчы яго душэўнаму пералому? Выканаўца ў гэтай ролі страціла пачуццё меры.

Артыстка А. Каменская выконвае ў спектаклі «Пасля разлукі» ролю настаўніцы Антаніны, якая ў складзе савецкай дэлегацыі прыязджае ў Францыю і трапляе там у складаныя акалічнасці. Надакучлівыя і прадажныя буржуазныя газетчыкі, тайныя агенты паліцыі імкнуцца скампраметаваць настаўніцу і дамагчыся, каб яна здрадзіла Радзіме. Антаніна перамагае ў гэтай барацьбе нямала цяжкасцей і нечаканасцей. Аднак артыстка А. Каменская, захапіўшыся паказам «стойкасці» і «пранікнёнасці» Антаніны, намалявала вобраз жанчыны, якая лёгка і спакойна парыруе любы выпад. Для яе няма нічога нечаканага, усіх людзей яна пазнае ў адзін момант, любую задачу рашае, не задумваючыся, неадкладна, хаця ўпершыню трапіла ў буржуазную краіну і аказалася ў такой складанай сітуацыі. Гэта парушае праўду характару і дзеяння. І зноў такі, гэта адбываецца таму, што артыстка ў даным выпадку парушыла пачуццё меры.

Для мастацкай праўды вобраза мае значэнне не толькі прынцыпова правільнае яго раскрыццё, але і кожная дэталь, якая можа раптам расквеціць вобраз, каб ён зайграў новымі фарбамі. Але тая ж самая дэталь, калі ёю карыстаюцца не да месца, можа пашкодзіць вобразу. У спектаклі «Без віны вінаватыя» акцёр Я. Кімберг у ролі Шмагі выкарыстоўвае такую акалічнасць. На грошы, падараваныя Кручынінай, Шмага купіў сабе новае паліто і ўпершыню з'яўляецца ў ім у тэатры. Шмага — Кімберг вельмі ганарыцца: цяпер ён не горшы за іншых. І тут жа глядач заўважае, што на паліто ў Шмагі на шнурочку матляецца ярлык магазіна. Гэта — добрая дэталь, дасціпная. Яна падкрэслівае радасць і задавальненне Шмагі, які адзеў абноўку і паспяшаўся пакрасавацца ў ёй, не заўважыўшы ніякага ярлыка. Але далей Шма-

(Заканчэнне на 2-й стар).

Заканчэнне. Пачатак у № 70 ад 5 верасня г. г.



Выдатна працуе на Гомельскай панчошна-трыкатажнай фабрыцы імя 8-га сакавіка капельшчыца камсамолка Валянціна Мухіна. У гонар XXII з'езда КПСС дзяўчына абавязалася выпусціць звыш плана пяць тысяч пар панчошна-шкарпэткавых вырабаў. Сваё слова яна цвёрда трымае, штодзённа выконвае норму выпрацоўкі не менш чым на 105 працэнтаў.

Фота Ю. ШЭЛІХІНА. (БЕЛТА).

# Купалаўцы адкрываюць заслону

Заўтра пачынаецца 42-гі сезон Тэатра імя Янкі Купалы. Пачынаецца ён у дні небывалага палітычнага і працоўнага ўздыму працоўных Савецкай Беларусі, выкліканага падрыхтоўкай да XXII з'езда КПСС і XXV з'езда Кампартыі рэспублікі.

Вывучаючы праекты Праграмы і Статута Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, акцёры, рэжысёры, мастакі, рабочыя цэхаў тэатра бачаць, якія вялікія і сур'ёзныя задачы стаяць цяпер па выхаванню будаўнікоў камуністычнага грамадства.

Перад намі, работнікамі мастацтва, адкрываюцца цікавыя перспектывы творчай дзейнасці. Мы павінны паказаць на сцэне больш хвалюючых вобразаў герояў-сучаснікаў, людзей новай сацыялістычнай эпохі. Гледачы хочуць бачыць спектаклі аб першых заваёўніках космасу, аб тых, хто будуе вялікія караблі-спадарожнікі, хто рухае далей наперад нашу індустрыю і сельскую гаспадарку.

Калектыў купалаўцаў гэтым летам гастраляваў на Віцебшчыне і Гродзеншчыне, паказваў спектаклі ў абласных і раённых цэнтрах рэспублікі, у калгасах і на новабудоўлях. У нашым гастрольным рэпертуары былі п'есы «Лявоніха на арбіце», «Выбачайце, калі ласка!», «Паўлінка», «Ён уцякае ад ночы», «Ліса і вінаград», «Забыты ўсімі» і інш. Апроч работы на стацыянары, тэатр правёў 40 выязных спектакляў у раёнах і калгасах, абслужыў больш 30 тысяч сельскіх гледачоў. Мы арганізоўвалі культпаходы, наладжвалі творчыя сустрэчы акцёраў з рабочымі фабрык і заводаў, працаўнікамі сацыялістычных палёў.

Мы не толькі паказвалі спектаклі, але і праводзілі семінары, метадычныя кансультацыі па тэатральнаму мастацтву для ўдзельнікаў мастацкай самадзейнасці. Гэтыя гастролі прынеслі калектыву многа новых яркіх уражанняў і дазволілі яшчэ лепш пазнаць жыццё працаўнікоў калгаснай вёскі.

Што ж новага пакажуць купалаўцы ў новым сезоне?

Яшчэ ў час гастрольных паездак рэжысёр В. Броўкін прыступіў да работы над новай п'есай І. Собалева «Гаспадар». Рыхтуючыся дастойна сустрэць XXII з'езд КПСС і XXV з'езд Кампартыі Беларусі, мы абавязаліся выпусціць спектаклі «Любоў, Надзея, Вера...» па п'есе П. Васілеўскага (рэжысёр-пастаноўшчык К. Саннікаў) і спектакль «Гаспадар».

9 верасня спектаклем «Лявоніха на арбіце» тэатр адкрывае заслону. Гэтымі ж днямі адбудзецца прэм'ера спектакля «Любоў, Надзея, Вера...». Спектакль раскажа пра маладых будаўнікоў, іх працоўныя справы, каханне і дружбу. Асноўны склад удзельнікаў спектакля—моладзь, якая з вялікім энтузіязмам працуе над стварэннем сцэнічных вобразаў нашых сучаснікаў.

У перыяд падрыхтоўкі да з'езду, у Мінску адбудзецца дэкада лепшых спектакляў на сучасную тэму. Калектыў купалаўцаў імкнецца да таго, каб стварыць высокаідэйныя і высокамастацкія спектаклі і завяваць права быць удзельнікам тэатральнай дэкады.

Па запрашэнню Крамлёўскага тэатра з 14 па 18 верасня купалаўцы са спектаклем «Лявоніха на арбіце» прымуць удзел у паказе сучасных спектакляў на маскоўскай сцэне.

У гэтым сезоне тэатр запланаваў пастаноўку п'есы Льва Талстога «Жывы труп» (рэжысёр І. Папоў), прэм'еру якой мяркуем выпусціць у снежні. Рэжысёр Л. Рахленка вядзе падрыхтоўку да пастаноўкі спектакля па п'есе Н. Хікмета «Дамоклаў меч», прысвечанай барацьбе за мір. У рэпертуар тэатра ўключана новая п'еса К. Сіманава «Чацвёрты».

Будуць адноўлены таксама спектаклі «Крамлёўскія куранты», «Трэцяя патэтычная» і «Алая кветачка».

Калі ў мінулым сезоне беларускія драматургі далі нам тры арыгінальныя п'есы, дык цяпер такіх п'ес мы не маем. Вось чаму мы звяртаемся з настойлівай просьбай да беларускіх драматургаў, каб яны больш актыўна пісалі для нашага тэатра. Рэпертуарны план на новы сезон яшчэ не сфармаваўся, і гледачы чакаюць ад тэатральнага калектыву і ад драматургаў рэспублікі новых твораў аб жыцці рэспублікі.

У лістападзе ў тэатры будзе праведзены конкурс акцёраў. Творчы калектыў папоўніцца новымі выканаўцамі.

Мы арганізуем вытворчую практыку для студэнтаў IV курса Мінскага тэатральна-мастацкага інстытута. Найбольш здольныя з іх у будучым стануць нашымі акцёрамі.

У сёлетнім сезоне купалаўцы значна пашыраць сувязь з рабочымі прадпрыемстваў, наладзяць выступленні акцёраў у цэхах фабрык і заводаў. Шырэй разгорнем пачатую ў мінулым годзе работу па правядзенню штотыднёвага дня тэатра на заводзе і штотыднёвага дня рабочых у нашым тэатры.

Па-ранейшаму купалаўцы будуць аказваць творчую дапамогу калектывам Ашмянскага, Барысаўскага і Мінскага аўтазаводскага народных тэатраў. Будзем практыкаваць паказ лепшых спектакляў народных тэатраў на сцэне нашага тэатра.

А. ТЭЛІЧАН, дырэктар Дзяржаўнага Акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы.

